# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

У 1932 г. ДАЦЬ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ ПАЛЁМ 82.000 ТРАКТАРОЎ!



№ 4

ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА 4

ГОД ВЫДАНЬНЯ 4

1932 г. Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

# адказ ВАСІЛЮ СОБАЛЮ

Рэдакцыя атрымала цікавы ліст ад нашага чытача Васіля Собаля.

У сваім лісьце Собаль піша:

„На вокладцы ў нумары 12 за 1931 год напісана: „24 нумары часопісі „Іскры Ільліча" будзе надрукавана ў 1932 годзе". Мне незразумела— ці гэта на адзін які раён, ці на ўсю БССР? Калі на ўсю БССР, дык гэтага ня хваціць. Прашу рэдакцыю адказаць мне на гэта".

АДКАЗВАЕМ.

Праўда, што на ўсю БССР ня хваціць „24 нумароў". Ня хваціць нават і на адзін калгас, калі ўсе дзеці падпішуцца на сваю часопісь.

І ЎСЕ ПАВІННЫ ПАДПІСАЦЦА, І ЎСІМ ХВАЦІЦЬ.

А як-жа так? А вельмі проста.

Будзе надрукавана 24 нумары. Кожны месяц два нумары. А ўжо ад дзяцей залежыць, які лік экзэмпляраў—асобных адбіткаў—кожнага нумару н друкаваць. Чым больш дзяцей падпішацца на сваю часопісь „Іскры Ільліча", тым большы лік экзэмпляраў мы надрукуем.

У гэтым месяцы мы маем 4700 падпісчыкаў і, значыцца, друкуем 4700 экзэмпляраў часопісі.

Давайце, дзеці, будзем дабівацца, каб падняць тыраж (лік экзэмпляраў) да 20 ТЫСЯЧ.

Абгаварэце ліст Васіля Собаля ў школе, у групе акцябрат, у атрадзе. Арганізуйце масавую падпіску на сваю часопісь.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 3 месяцы— | 90 кап. | На 1 год | —3 р. 60 к. |
| „ 6 „ | —1 р. 80 „ | Падпіску здавайце на пошту. | |

Адрас радакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# НОВЫ ПЛЯН ВЯЛІКАЙ РАБОТЫ


І. В. СТАЛІН


В. М. МОЛАТАУ

**17-я УСЕСАЮЗНАЯ ПАРТЫЙНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ВЫЗНАЧЫЛА АСНОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ. БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА ЗА ПАБУДОВУ НОВАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ!**

## ВЫНІКІ ПЕРШАИ ПЯЦІГОДКІ

Посьпехі першай пяцігодкі вялізарныя. Зараз ужо нават самыя злосныя нашыя ворагі загаварылі аб посьпехах пяцігодкі.

**Пяцігодку мы выконваем не за пяць, а за чатыры гады.**

Самы галоўны посьпех першай пяцігодкі—мы стварылі моцную аснову для пабудовы сацыялізму. **Закладзены моцны фундамант сацыялізму ў нашай краіне.** Мы пабудавалі многа заводаў-волатаў, якія вырабляюць машыны, патрэбныя для перабудовы нашай гаспадаркі. Нашыя заводы ўжо зараз вырабляюць машыны ня горшыя, чым заграні́чныя. Мы ўжо самі робім ня толькі трактары, але і самыя складаныя машыны. А гэта значыць, што **мы ўсё больш і больш вызваляемся ад залежнасьці буржуазных краін.**

Другі посьпех—наша дробная сялянская гаспадарка калектывізавана па СССР звыш, чым на 60 проц. Бядняцка-серадняцкія масы зразумелі перавагу буйнай гаспадаркі. Мы ствараем магутную сельскую гаспадарку на аснове лепшай сучаснай тэхнікі. Дробная сялянская гаспадарка ня можа даць заводам патрэбную сыравіну,

ня можа даць патрэбных прадуктаў. Яна ня можа пракарміць нават сябе. Такая гаспадарка затрымлівае пераможны ход сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Толькі гаспадарка калектыўная, з разьвітай машыннай тэхнікай можа даць усё патрэбнае краіне і вывесьці селяніна з жабрацтва і голаду.

На аснове суцэльнай калектывізацыі мы ліквідуем апошнюю капіталістычную клясу ў нашай краіне—кулацтва.

Пяцігодка па некаторых важнейшых галінах народнай гаспадаркі выканана за тры і нават за 2½ гады (нафта, машынабудаўніцтва і інш.).

Мы пачалі ствараць такі гігант, як Урала-кузьнецкі камбінат. Пра гэты камбінат нічога не ўпаміналася ў пяцігадовым пляне. А зараз ужо на Урале пускаюцца ў работу домны, якім няма роўных у сьвеце.

У нашай краіне няма беспрацоўных. Гэта вялізарны посьпех, які мае сусьветнае значэньне.

Усяго гэтага мы дабіліся дзякуючы правільнай лініі партыі на чале з тав. **Сталіным**, дзякуючы актыўнасьці і гераізму працоўных мас. Партыя дала рашучы адпор усім тым, хто цягнуў нас назад, хто здрадзіў справе працоўных—справе сацыялізму. Рабочая кляса пад кіраўніцтвам партыі паказала вялізарны гераізм у выкананьні плянаў першых гадоў пяцігодкі.

Улічваючы посьпехі першай пяцігодкі, партыя дала дырэктывы да складаньня другой пяцігодкі, вызначыла асноўныя ўстаноўкі яе.

**17-я партканфэрэнцыя**, якая адбылася ў першых лічбах лютага, заслухала даклады т. т. **Молатава** і **Куйбышава** аб другой пяцігодцы. Канфэрэнцыя дасканала абмеркавала гэтыя даклады і прыняла рэзалюцыю, у якой вызначыла асноўныя задачы другой пяцігодкі.

## ЗАДАЧЫ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ

Задачы другой пяцігодкі—вялізарныя задачы.

Галоўная задача другой пяцігодкі—гэта **канчаткова ліквідаваць капіталістычныя элемэнты ў СССР. Завяршыць пабудову бясклясавай сацыялістычнай грамады,**

У канцы другой пяцігодкі мы ня будзем мець клясаў. Мы зьнішчым прычыны, што нараджаюць клясы—прыватную

*(Канец глядзі на 4-ай стар.)*.




## ДАГНАЦЬ І ПЕРАГНАЦЬ

1
2
3
4
5
6
7
8
9

НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДАХОД
МАШЫНАБУДАЎНІЦТВА
ЭЛЕКТРАПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ
МЕДЗЬ
ЧЫГУН
ВУГАЛЬ
НАФТА
ЭЛЕКТРАЭНЭРГІЯ

1928 г. 1931 г. 1932 г.

**Лічбамі (зьлева) паказана месца, якое займаў СССР у 1928 г. і 1931 г. і якое павінен заняць у 1932 г. (па заканчэньні пяцігодкі) у сусьветнай гаспадарцы па асноўных галінах вытворчасьці**

# РОСТ ГАЛОЎНЫХ ГАЛІН ВЫТВОРЧАСЬЦІ ЗА ДРУГУЮ ПЯЦІГОДКУ

уласнасьць, якая дазваляе эксплёатаваць аднаго чалавека другім. Калгасьнікі стануць сацыялістычнымі работнікамі ў с. гаспадарцы.

Да гэтага мы прыдзем толькі праз жорсткае клясавае змаганьне з рэшткамі капіталістычных элемэнтаў, з пережыткамі старога. Адсюль вялікая задача другой пяцігодкі—**зьнішчыць перажыткі старога** і ў гаспадарцы, і ў сьвядомасьці людзей. Гэтыя пережыткі яшчэ даволі моцныя ў пэўных адсталых групах рабочых і калгасьнікаў, якія ставяць свае інтарэсы вышэй агульных, дзяржаўных. Змагацца з гэтымі пережыткамі за сьвядомых актыўных будаўнікоў бясклясавай грамады—такая галоўная задача.

У другой пяцігодцы нам трэба палепшыць забесьпячэньне працоўных ня менш чым у 2—3 разы супроць канца першай пяцігодкі.

Каб закончыць распачатую ў першай пяцігодцы перабудову гаспадаркі на новы сацыялістычны лад, патрэбна яшчэ многа машын. Гэтыя машыны мы ўжо можам рабіць самі на сваіх заводах.

**Да канца другой пяцігодкі нам трэба павялічыць выраб машын у 3—3½ разы супроць 1932 года.**

Вось дыяграма росту СССР у другую пяцігодку ў параўнаньні з 1932 годам—чацьвертым і апошнім годам першай пяцігодкі (глядзі 3-ю старонку. Лічбы росту на табліцы (зьлева) вызначаны ў такіх мерах: **электраэнэргія**—у мільярдах кілёват гадзін, **вугаль, нафта і чыгун**—у мільёнах тон, **аўтамабілі і трактары**—у тысячах шт.).

Гэта галоўныя лічбы вялікага пляну пабудовы сацыялізму ў СССР.

За другую пяцігодку СССР ставіць сабе задачу—**дагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны па цэлым радзе вытворчасьцяй.**

СССР стане незалежным ад капіталістычных краін. Мы будзем выробляць усё патрэбнае нам самі на сваіх фабрыках і заводах.

Капіталістычныя краіны ідуць да гібелі. Расьце крызіс. Там налічваецца 25 міл. беспрацоўных. У нас-жа беспрацоўных няма. Мы ідзем шпаркімі тэмпамі наперад. Усё гэтае яшчэ раз паказвае працоўным усяго сьвету на перавагу сацыялістычнага ладу над капіталістычным.

**Дзеці! У гэтым артыкуле вы шмат чаго не зразумееце. Лепш за ўсё прачытайце яго ў школе калектыўна, разам з настаўнікам.**



У час работы XVII Усесаюзнай партыйнай канфэрэнцыі была пушчана першая домна ў Магнітагорску, на Урале. Гэта самая вялікая домна ня толькі ў СССР, але і ва ўсім сьвеце. Яна будзе выплаўляць штодзенна па 1000—1200 тон чыгуну.

У Магнітагорску будзе працаваць 8 такіх доменных печаў.

На малюнку—першая домна, пушчаная ў работу.

# АПАВЯДАНЬНЕ ПРА ВЯЛІКУЮ ПЕРАМОГУ

І. ШАПІРА

Сёньня ў нас будзе цікавая гутарка. Ад самага ранку мы пачалі рыхтавацца. У вялікім пакоі паставілі крэслы. На аднэй сьцяне павесілі вялікае белае палатно, а ля другой сьцяны, што насупроць, на стале паставілі бляшаную скрынку з дзьверцамі, ручкамі, у сярэдзіне—лямпачка.

Дзядзька Антон, рабочы машынабудаўнічага заводу, расказваў пра тое, як будавалі Харкаўскі трактарны завод.

Дзядзька Антон высокі, у яго шырокія дужыя плечы. Ён пачаў расказваць, а на белым палатне ўзьнікалі малюнкі. Адразу паказаўся надпіс. Мы ўсе голасна прачыталі:

**„15 кастрычніка 1929 года Савет Народных Камісараў вынес пастанову будаваць у Харкаве трактарны завод, які будзе вырабляць 50.000 трактароў у год“.**

У лютым месяцы пачалі капаць мёрзлую зямлю. Зямля была як камень. Капаць было цяжка. Але чакаць, пакуль зямля аттане, ня было часу. Да 15 мая падрыхтаваліся да будаўніцтва. 15 мая пачалі працаваць муляры. Палажылі першы камень Харкаўскага трактарнага заводу.

На белым палатне зьявіўся малюнак поля, дзе расла вялікая густая трава.—Вось такі малюнак,—казаў дзядзька Антон, паказваючы доўгай палачкай на палатно,—быў у 1930 годзе там, дзе зараз пабудаваны вялікі будынак зборачнага цэху трактарнага заводу.

Распачалося змаганьне соцен тысяч ударнікаў са сьцюжай, з зямлёй за тое, каб пабудаваць завод.

На белым палатне ўзьнікалі малюнкі вялікіх будынкаў. Шмат вялікіх доўгіх будынкаў, адзін за адным.

15 лютага 31 года скончылі будаваць кузьню.

3 красавіка пачаў працаваць мэханічны цэх.

У ліпені ў ліцейным цэху пачалі ўжо плавіць чыгун.

Дзядзька Антон расказваў як будавалі адзін з найвялікшых трактарных заводаў.

На белым палатне зьявіліся малюнкі рабочых калён са сьцягамі. Шмат рабочых ішло ў калёнах.

Харкаўскі трактарны завод будуюць усе рабочыя Харкаву. На палатне зьявіліся малюнкі. Калёны ідуць са сьцягамі і, відаць па тварах, са сьпевамі. **Ідуць на ленінскі суботнік.**

Малюнкі мяняліся адзін за адным. Дзядзька Антон расказваў, што на будаўніцтве трактарнага заводу рабочыя паказалі, сябе як сапраўдныя гаспадары пабудовы. Завод будавалі паўдарнаму. На палатне зьявіўся новы малюнак. Маладыя хлопцы весела пазіралі з палатна і здавалася, што яны стаяць жывыя, вось тут каля нас. Потым было напісана і мы ўсе голасна прачыталі:



**Дзядзька Антон апавядаў, а на белым палатне ўзьнікалі малюнкі**

**„Лепшая ўдарная брыгада тав. Мігуліса, якая кладзе цэглу хутчэй за ўсіх муляроў“.**

— Вось хто будаваў завод,—кажа дзядзька Антон.

11 лістапада быў устаноўлены першы варштат у мэханічным цэху заводу.

Было холадна. Усё пазамярзала. Вецер зьбівае з ног.

Будоўлю трэба працягваць. Камсамолія будаўніцтва абвяшчае штурм у адзнаку рэвалюцыі 1905 года.

— Працы на будаўніцтве шмат, адпрацуем за 10 дзён звыш тэрміну 20 тысяч рабочых гадзін, каб выканаць плян будаўніцтва,—заявілі рабочыя.

15 лютага 1931 года закончылі будаваць завод. На белым палатне ўзьвіўся сьцяг і на сьцягу было напісана: **„За 10 дзён на будаўніцтве трактарнага заводу ўдарнікі адпрацавалі 24 тысячы гадзін звыш свае нормы“.**

Працавалі на сьцюжы, вецер зьбіваў з ног, праціскаўся за каўнер, але працавалі, каб выканаць плян будаўніцтва.



На палатне зьявіліся трактары

Час будаўніцтва прайшоў. Завод рыхтуецца да пуску. 25-га верасьня адбыўся пробны пуск Харкаўскага трактарнага заводу.

На заўтра ў пакой партыйнай ячэйкі заводу прышло 50 кавалёў, якія працавалі на будаўніцтве і заявілі:

— Мы змагаліся і перамагалі пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі і мы хочам працаваць на заводзе і ў партыі.

50 кавалёў уступілі ў Камуністычную партыю.

26 верасьня брыгада муляроў Целяшэнка ўкладала цэглу ў мур ужо хутчэй за брыгаду Мігуліса. Брыгада Целяшэнка клала цэглу хутчэй за ўсіх муляроў, якія працавалі на заводзе. На пабудове заводу клалі цэглу хутчэй чым усюды, хутчэй нават чым у Амэрыцы.

1-га кастрычніка быў гатовы першы трактар з тых 50 тысяч, якія завод будзе вырабляць за год.

Дзядзька Антон, крыху ўзьняўшы голас, працягваў апавяданьне пра вялікую перамогу. Ён крыху спыніўся, пакуль на белым палатне не зьявіўся надпіс вялікімі літарамі:

**„У строй пяцігодкі ўвайшоў Харкаўскі трактарны завод імя т. Арджанікідзэ“.**

На палатне зьніклі літары надпісу. Зьявіліся калёны рабочых. Рабочыя ішлі са сьцягамі. За імі на палатне зьявіліся трактары. Відаць было як колы трактароў паўзьлі па зямлі.

— Пуск Харкаўскага трактарнага заводу, — казаў дзядзька Антон,—гэта было вялікім сьвятам для ўсяе краіны.

Увечары 30-га верасьня вуліцы сталіцы Украіны—Харкава, пляцы, дамы былі ўпрыгожаны. Зранку на завод ішлі з гораду дэлегацыі рабочых з усяго Савецкага Саюзу. Усе цэхі

былі прыбраны, упрыгожаны. Завод быў гатоў да ўпартае будзённае працы.

Да трыбуны падыходзіць усё больш і больш народу, натоўп расьце. На трыбуну ўзыходзіць сакратар ЦК КП(б)У тав. Касіор. І ўсё гэта відаць на нашым палатне.

„Ня верыцца, кажа т. Касіор, што за 15 месяцаў пабудаваны гэты вялікі завод. **Толькі ў працоўнай краіне можа быць пабудаваны такі гігант за такі кароткі час.**

Гэтым можа ганарыцца ўся наша краіна, уся рабочая кляса".

— Гэтым ганарацца вашыя бацькі, вашы старэйшыя браты і сёстры,—кажа дзядзька Антон,—якія заразпад сьцягам Леніна змагаюцца і перамагаюць.

На калгасныя палі пайшлі калёны трактароў.



**Ударна будавалі харнаўскі трактарны**



# Дом-камуна

Верш дзяткора Ул. ПІЛЮГІ

Малюнкі САМАТЫЯ

**Пра жыцьцё рабочых**
**Ды іхныя хаты**
**І пра паноў багатых.**

Кепскія хаты,
Цёмныя хаты.
Брудныя хаты
Былі ў небагатых.
Добрыя хаты,
Сьветлыя хаты,
Чыстыя хаты
Былі у багатых...
...Сядзіць у хаце
Сваёй рабочы,—
Сьцены ў хаце
Разбураны,
Дзьверы паломаны,
Холадна, голадна
Удзень і уночы...
Рабочы сядзіць
Абураны...
А панскіх палацаў сьцены
Глянцамі фарбаў зіхцяць.
Балюе панскі засьценак...
Аб чым-жа паном бедаваць?
Але вось прышоў к нам
Кастрычнік Чырвоны.
Прагналі мы вон
Паноў ды баронаў.
Савецкая ўлада—
Улада рабочых.
Таму вось рабочым
Дабра яна хоча.
Даволі гібелі
Рабочыя ў хатах
Разбураных, цесных,
Халодных і брудных.
Збудуем рабочым
Новыя хаты—
Чыстыя, сьветлыя,
Культурныя!



Кепскія хаты былі ў небагатых

**Пра тое, якую рабочаму Бэру Савецкая ўлада дала кватэру.**

Была ў Ігната хата.
Холадна ў хаце было:
Ня было печы
У Ігнатавай хаце,
Было пабіта
Ваконнае шкло.
Вецер у вокнах
Пабітых гайсаў,
Вецер нудлівую
Песьню заводзіў...
І часта Ігнат
Гаварыў, выступаў
Аб хаце сваёй
На заўкомаўскім сходзе...
А жонка Агата плакала
І праклінала хату,
Ды пытала ў Ігната:
—Калі-ж новая будзе хата?..

* * *

Канвэрцік
Прыслалі
Ігнату,
А ў ім ліст:


Добрыя хаты былі ў багатых

Даюць вам
Новую хату.
—Заўком Ліс...
Чытае
Ігнат
Старэнна
І рупна.
А далей
найшлі радкі:
—Адчыняеццца
новы
Дом-камуна
Для рабочых
фабрыкі
КІМ'у.

* * *

Добра жыць
У новай хаце
Дзеткам і
Агаце.
Ужо Агата
Больш ня плача—
Хата добрая.
Ёсьць у ёй
Пакой дзіцячы
Ды сталовая.
І чытальня
Ёсьць у доме,
У чытальні—
Многа кніжак,
Што раскажуць
Аб усіх ёй
Справах дробных
Ды вялікіх.
Дзеці болей
Ня дурэюць
І ня плачуць,
Бо прыгорне

Да сябе іх
Пакойчык дзіцячы.
У пакоі
Многа цацак:
Кубікі і мячыкі.
Так гуляць
З імі забаўна,
Проста—
Сад дзіцячы.
Вось Міколка
Ды Таіці—
Агаціны дзеткі.
Адзін кубікі складае,
Другі садзіць кветкі.

Каця стала акцябронкам
(У комуне ёсьць атрад).
Піонэрам стаў Сымонка,
Бацька камуністам стаў.

* * *

Добра ўсім
У камуне жыці,
Добра бацьку
І Агаце,
І Міколку,
І Таіці...
СЛАВА,
СЛАВА
Новай хаце!



# „ІДЗЕЦЕ  ЖАБРАВАЦЬ!“

**З жыцьця нямецкіх беспрацоўных**

Франц Штук калісьці быў кавалём. Цяпер беспрацоўны. Ён стаіць у чарзе на дварэ Бэрлінскай біржы працы. Ён стаіць тут чатыры гадзіны, пяць гадзін. Нарэшце ён падыходзіць да ваконца.

— Няма, вам не належыць больш дапамога. Больш дзевяці месяцаў дапамога па беспрацоўі не выдаецца.

У Франца Штука па твары цячэ пот.

— Дык што-ж мне цяпер рабіць? Паміраць?

Каля ваконца стаіць паліцэйскі з гумавай палкай у руках. З боку ў яго вісіць рэвальвэр. Паліцэйскі ўсьміхаецца.

— Ідзеце жабраваць,—гаворыць паліцэйскі.

— Жабраваць?—перапытвае Франц Штук.—Вось гэту руку працягваць, каб падарылі?—Ён разглядае сваю руку—цьвёрдую і шырокую, як дошка.—Вось гэту руку...—кажа ён. — А ну, скажы другі раз, што ты сказаў.

— Паліцэйскі адступае на крок. Ён сьціскае сваю палку ў руках.

— Вы ня пойдзеце? — прыжмурыўшыся, гаворыць ён. —Раз... два...

— Тры!—крыкнуў раптам Франц Штук,— і паліцэйскі прысеў ад удару: цяжкі кулак загнаў яго галаву ў каску па самыя вочы.



**Вось гэту руку працягваць, каб падарылі?!**

**ДРУЖНА СУСТРЭЦЬ 3-ю БАЛЬШАВІЦКУЮ ВЯСНУ! ЗМАГАЦЦА ЗА АРГАНІЗАЦЫЙНА-ГАСПАДАРЧАЕ ЎМАЦАВАНЬНЕ КАЛГАСАЎ!**

# КАЛГАС стаў ПРЫКЛАДНЫМ

Ус. ШЫДЛОЎСКІ

Калі ўваходзіш у канцэлярыю калгасу „Бальшавік Беларусі“, што знаходзіцца ў Клімавіцкім раёне, дык у вочы адразу кідаецца вялікі плякат—лёзунг. На ім напісана:

**„...Наш калгас уключыўся ў конкурс, абвешчаны „Праўдой“. У калгасе выдаецца насьценгазэта. Таварышы калгасьнікі, пішэце ў газэту аб рабоце калгасу. Зробім калгас моцным арганізацыйна і гаспадарча“.**

Гэты лёзунг напісалі піанэры.

Калгас „Бальшавік Беларусі“, гэта—адзін з буйных калгасаў у Клімавіцкім раёне. У яго ўваходзяць 19 вёсак і пасёлкаў, якія цяпер называюцца аддзяленьнямі калгасу. Калгас займае цэлы сельскі савет.

Арганізаваўся ён у 1929 годзе. Зіма тады была халодная. Лютыя маразы, завеі не давалі выйсьці з хаты. Вечарамі ў такі час, калі запальвалі ў хатах сьвятло, беднякі і серадлякі зьбіраліся на сходы абгаварыць, які знайсьці выхад, каб палепшыць сваё жыцьцё. І думкі ўсіх сышліся на адным: выхад—у калектыўнай гаспадарцы. Пад кіраўніцтвам партыі і рабочае клясы будаваць моцную калектыўную гаспадарку.

Не сядзелі спакойна і кулакі ў тыя вечары. Яны ўсяляк стараліся пашкодзіць калгасу. Адгаварвалі беднякоў, палохалі, што бог пакарае калгасьнікаў ды інш.

Але не спалохаліся беднякі і серадлякі кулацкай хлусьні. У калгас арганізаваліся і назвалі яго „Бальшавік Беларусі“. Аж 621 гаспадарка ўступіла ў калгас, і пачалі жыць па-новаму.

У лістападзе месяцы 1931 года газэта „Праўда“ абвясьціла конкурс насьценных калгасных і саўгасных газэт на лепшае арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Тав. Сталін сказаў, што

газэты і кніжкі маюць вялікае значэньне ў пабудове сацыялізму. Газэты і тыя, што пішуць у іх—рабселькоры, праводзяць вялікую работу як на фабрыках, заводах, таксама і ў калгасах. Вось чаму газэта „Правда“ абвясьціла конкурс насьценгазэт і сказала, што тая насьценгазэта, якая дабʻецца таго, што калгас будзе прыкладным ва ўсёй рабоце, той калгас і насьценгазэта атрымаюць прэмію.

І вось у калгасе „Бальшавік Беларусі“ стварылі 12 насьценгазэт. Газэты ўключыліся ў конкурс „Правды і пачалі змагацца з недахопамі ў рабоце калгасу.

Піанэры таксама прымаюць удзел у рабоце насьценгазэт. Гэта яны вывесілі і той лёзунг, які вісіць у канцэлярыі калгасу і кліча, каб усе калгасьнікі праз насьценгазэты дабіваліся пераводу ўсяе работы на зьдзельшчыну, каб добра даглядаліся коні, каб у час былі выкананы хлебазагатоўкі і г. д.

Калгас пачаў расьці і ўзмацняцца, пачаў багацець. А як вынік гэтага—палепшылася жыцьцё калгасьнікаў. Ураджай стаў большы, і хлеба стала болей.

У калгасе ёсьць сьвіная фэрма, на якой гадуецца 314 сьвіней. Таксама ёсьць каля 400 штук абагуленых кароў. Калгас засадзіў 8 гектараў зямлі садам. Маладыя дрэўцы папрымаліся і праз некалькі год калгасьнікі будуць мець свае яблыкі.

У калгасе лепш стала жыць і дзецям: для іх арганізавана дзіцячая пляцоўка. Самі дзеці вершык склалі і сьпяваюць:

„Бальшавік Беларусі“
Наш калгас завецца,
У калгасе дзеткам
Радасна жывецца.

Але ня ўсё яшчэ добра ў калгасе. Клясавыя ворагі і кулацкія падпявалы пачалі шкодзіць калгасу. Адзін кулак Нікіфарэнка, пралезшы ў калгас, стаў брыгадзірам і згнаіў на дажджы 1000 пудоў саломы і 2500 пудоў бульбы.

Частка былых жандараў-шкоднікаў таксама прытулілася ў калгасе. Яны падрывалі калгас з сярэдзіны. Сёлета ў час малацьбы шкоднік укінуў у малатарню кавалак жалеза... Малатарня папсавалася.

А вось былы старшыня калгасу, падкулачнік, зусім не хацеў выконваць хлебазагатовак. Гаварыў, што я дзяржаве нічога ня дам.

Самі будзем усё спажываць, а рабочыя ў горадзе хай галодныя сядзяць.

Насьценныя газэты выкрылі ўсіх гэтых ворагаў калгасу. Цяпер іх выгналі з калгасу. І калгасу стала лягчэй, работа пайшла ляпей.

Насьценныя газэты дабіліся таго, што калгас выканаў плян хлебазагатовак. Чырвоныя абозы адвезьлі хлеб дзяржаве. А дзяржава дасьць гэты хлеб рабочым, якія робяць калгасам машыны.

Насьценныя газэты павялі работу, каб у калгасе ўсюды была ўведзена зьдзельшчына. Каб той, хто больш і лепш робіць, каб ён больш і атрымліваў з прыбыткаў калгасу.

Цапер 12 насьценных газэт разгарнулі падрыхтоўку да вясновой сяўбы.

І „Бальшавік Беларусі“ па-ўдарнаму пачаў рамантаваць плугі, бароны, сеялкі. У калгасных кузьнях весела застукалі малаткі, запішчала жалеза, рассыпаючы чырвоныя гарачыя пыркі. Пачалі ачышчаць насеньне ад featured разнага сьмецьця, бо ад ачышчанага насеньня павялічыцца ўраджай.

І піанэры таксама не адстаюць у рабоце. Яны арганізавалі брыгады і пачалі зьбіраць попел, пачалі памагаць ачышчаць насеньне.

У адным аддзяленьні калгасу піанэрка **Жураўлёва** зьяўляецца рэдактарам калгаснай насьценнай газэты. Газэта яе выходзіць адзін раз у пяцідзёнку. У газэце яна шмат адводзіць месца падрыхтоўцы да сяўбы. Піша пра тых, хто ня хоча рыхтавацца да сяўбы, хто ня хоча рамантаваць плугоў, хто дрэнна даглядае коняй.

Насьценныя газэты змаглі наладзіць работу калгасу, а ўвесну яны яшчэ большую работу праробяць. Яны даб‘юцца таго, што „Бальшавік Беларусі“ па-ўдарнаму правядзе сяўбу.

Так насьценныя газэты змагаюцца за моцны, прыкладны калгас.



# Калгас „Бязбожнік"

Верш М. ЧАРОТА

Малюнкі САМАТЫЯ




Мой бацька, дзед,
Ну, ясна й прадзед,
Жылі заўжды
Ў бядзе, нудзе..
Ліхое месца
Там празвалі,
Чамусьці, вёскаю
Рудзенск.

Пра лёс цяжкі свой
Пра бядоту,
Бывала ім
Пагаманіць з кім?
Дзяры лазу,
Сушы балота,
Каб добра жыў
Пан Гаманіцкі.

І ўсё на пана,
На падпанка,—
Працуй на іх,
І іх ты чэствуй..
Парогі бі
Ды стой ля ганку
У Ніціеўскіх,
Янішэўскіх.

А чуць-чуць што—
Ураднік, стражнік,—

Яны ім служкі,
Іх падпора...
Было мінулае
Так страшна,
Ды згінула
Бяда і гора.

Вас, землякі мае,
Вітаю!
І ад сябе
І фабрык Менску,
Што жах тых дзён,
Як сьнег растаў ён
І што няма цяпер
Рудзенску!

Прастор палёў, лясы—
Ўсё ваша.
Чым меней межаў—
Болей збожжа.
Ня чутна слоў:
„Ягомасьць! „вашаць!“...
Жыве інакш
Калгас „Бязбожнік“.



Працуй на пана, на падпанка.

Я ведаю—
Бывае крута:
Ня ўсё ў ладу,
А працы многа...
Затое кожны з вас
Раскуты
І вернаю ідзе
Дарогай.

Ня мейсца гультаям
Ў калгасе
І хто псуе
Ўсю вашу справу...
Ня бойцеся,
Што цяжка часам,—
Чакае росквіт вас
І слава.

І дзень і час
Вам шчасьце сее,
Дзе гаравалі ўсе
Вякамі...
Ніхто цяпер
Вас не пасьмее
Назваць
„Дурнымі мужыкамі“!

Ў саюзе будзь
З рабочай клясай,
Усіх і ўсё
Падужаць зможам...
Таварышы!
Вітаю вас я
І ваш калгас—
Калгас „Бязбожнік“!

# Кулацкая работа

Апавяданьне А. НАСІМОВІЧА
Малюнкі Р. ІЗМАЙЛАВА

Больш за ўсіх стараўся ў палявой брыгадзе Яўсеіч.

Быў ён селянін заможны, меў усяго нямала. Ня так даўно ў яго і млын свой быў. І хоць млын згарэў, але калі яго прымалі ў калгас, многа шуму было. Уся бедната не хацела яго прымаць у калгас. Але па большасьці галасоў прайшоў.

І цяпер Яўсеіч дакараў беднату:

— Сапраўды я, выходзіць, ударнік, а хто крычаў супроць мяне? Выходзь вось цяпер, дагані мяне... І на работу я самы першы. І збожжа ў мяне на пасеў вышла меней. Збожжа то калгаснае, што сваё, яго шанаваць трэба...

Казаў ён так. Але...

Маленькі Петрык, сын пастуха, глянуў аднаго разу, як Яўсеіч працуе і зьдзівіўся.

Усе сеюць, як звычайна, а Яўсеіч даедзе да канца баразны, аглянецца. Выбера зерна з сеялкі, знойдзе ямку ў зямлі, насыпле туды прыгаршчы, а сам па зямлі зьверху шарк ботам, і затопча.

Пры гэтым мармыча:

— Я вам пасею... Ужо я вам пастараюся...

Усё гэта для Петрыка было і незразумела і дзіўна.

* * *

Пачалі зелянець усходы.

Авёс ішоў густа з-пад зямлі. Роўнымі, роўнымі радкамі засьцілаў ён чорную зямлю. Уся зямля скора зазелянела. Толькі па сярэдзіне поля пуста. Рэдкарэдка прабіваецца тут авёс.

Выходзілі на палетак калгасьнікі. Не маглі зразумець,

чаму так вышла? Сеялі нібы ўсе добра. Больш за ўсіх дзівіўся Яўсеіч.

— Ды хто тут сеяў гэта? Ці не Яўсеіч?

— Ня ў гэтым,—кажа, бядуючы, Яўсеіч.—Працавалі, можна сказаць, па-ўдарнаму, а вышла— на табе. Мусіць, прычына ў зямлі...

* * *

Прыехаў аграном. Калгасьнікі павялі яго на поле.

Аграном доўга аглядаў палетак, абышоў яго так і гэтак і паціскаў плячыма.

Папрасіў паказаць сеялку, але яна была спраўнай.

Усе зьдзівіліся.

Раптам Петрык, пастухоў сын, пацягнуў ціха Яўсеіча за рукаў.

— Дзядзечка, а дзядзечка?

Чаго табе?

— Ды можа яно з таго...

Калгасьнікі засьмяяліся.

Петрык струсіў, але аграном пагладзіў яго па галаве:

— Ну? ну? Чаго—таго?

— Памятаеш, дзядзька Яўсеіч, пад'едзеш ды высыплеш? А сам нібы молішся: „Ужо я вам пасею — пастараюся“... Памятаеш? Можа яно з твае малітвы?

— Ды куды — высыплеш?— пытаецца аграном.

— А ў канцох, у ямкі,—жыва растлумачыў Петрык.

Усе заціхлі.

— Цыц, дурань! — крыкнуў Яўсеіч і замахнуўся. — Мелеш усялякую лухту. Дурань жаўтароты!



Я вам пасею... Ужо я вам пастараюся...





**Ён прывёў агранома ў канец палетка**

* * *

Аграном узяў за руку хлопчыка.

— А ну, пойдзем! Пакажы нам, якія канцы, у якія ямкі?

Петрык зарадваўся.

Ён прывёў агранома ў канец палетка. Калгасьнікі ішлі ззаду.

— Дзядзька Яўсеіч забыўся, а я памятаю,—сказаў Петрык,— вось... Ён ботам яшчэ прытоптваў...

Петрык казаў праўду.

Мінула з часу сяўбы 3 месяцы, а відаць было: нехта старэнна ботамі затаптаў у розных мясцох невялікія ямкі з аўсом. Такіх ямак знайшлі многа.

Калгасьнікі надзьмуліся, а аграном сказаў:

— Так-так... Цяпер няма чаго і галаву ламаць.

Яўсеіч белы, як палатно, ішоў бокам.

Вышла наверх кулацкая работа!

— Яўсеіча, як шкодніка і ворага, выгнаць з калгасу,"—так пастанавіў агульны сход калгасьнікаў.

# ДЗЕНЬ ЖАНЧЫНЫ




2. Сёньня, дзеці, дзень жанчыны—
Будзем ўсе мы сьвяткаваць
І пасьля сканчэньня працы
Разам ўсе адпачываць.

## ЗАГАДКІ

1. Што можна лёгка падняць, а перакінуць за пяць шагоў нельга?

2. Маленькі, гарбаценкі ўсё поле абскакаў, дахаты прыбег і ўсю зіму праляжаў.

3. З якой пасуды ня п'юць і не ядуць?

4. Якія каменьні ў рэчцы і якія ў моры?

5. Не каваль, а з кляшчамі.

6. Дзьве дачкі, дзьве маткі ды бабуля з унучкай. Колькі ўсіх?

## ПАДУМАЙ

7. Уваходзіць у ваду чырвоная, а выходзіць чорная.

8. Ня куст, а з лісточкамі; ня рубашка, а пашыта.

### АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ з № 3

1. Клубок. 2. Комін. 3. Нікольki, бо страха-ж цэлая. 4. Нікольki. Запалкі ня могуць „хадзіць“. 5. У аднэй клетцы „К“, у другой — „А“, а ў трэцяй — нічога („пуста“). 6. Чалавек. Ён кіруе машынай. 7. На геаграфічнай карце. 8. СССР. 9. Чырвоная. 10. Кніга. 11. Венік.

# ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ

(ВАЙСКОВАЯ ГУЛЬНЯ)

Ішлі мы аднойчы цераз пляц і бачылі як чырвонаармейцы вучыліся. Рабілі розныя рухі са стрэльбай. Усе разам, па камандзе, выстаўлялі назад правую нагу, паднімалі вінтоўкі. Галоўнае, што ўсе і ўсё рабілі разам, дружна.

Вось праз гэта мы з Янкам, што ў другой групе, парашылі наладзіць вайсковую гульню. Мы зрабілі сабе з паперы чырвонаармейскія шлемы, а наперадзе з чырвонай паперы наклеілі зоркі. І аднойчы ў такіх шапках прышлі на збор групы. Усе зьдзівіліся.

— Вось і камандзіры нашыя прышлі,—сустрэлі нас з жартам. А мы нібыта і ўсур'ёз чырвоныя камандзіры. Усіх акцябрат мы падзялілі на дзьве часткі і пастроілі ў дзьве шарэнгі адна супроць другой. Пакой мы аслабанілі ад крэслаў і сталоў. Свае атрады мы паставілі так, каб ззаду ад сьцяны было па два мэтры, а ў сярэдзіне між імі ня менш 2—3 мэтраў.

Я растлумачыў тэму сёняшніх заняткаў.

Кожнае аддзяленьне ідзе шарэнгай кругам, зьмейкай або якім-небудзь іншым строем пад музыку ці пад барабан. Усе ідуць, пакуль камандзір (гэта значыць, я з Янкам) ня скажа: раз! тады ўсе спыняюцца і робяць першы рух, прыкладна выстаўляюць правую нагу назад. Калі камандзір скажа—два! усе ўдзельнікі гульні падымаюць рукі так, як падымаецца стрэльба. Той, хто ня зробіць патрэбны рух, прайграе.

Дзеля таго, каб гульня праходзіла больш цікава, мы давалі каманду, каб рабіць першы рух (выстаўляць правую нагу назад), а самі ў гэты час робім які-небудзь другі рух, каб зблытаць нядбайных удзельнікаў гульні.

У канцы гульні мы абвяшчалі, у якім аддзяленьні было менш памылак.

Мы спаборнічалі з Янкавай групай—у каго менш „байцоў“ выбудзе з строю. Гульня прайшла ў нас вельмі цікава. Паспрабуйце, дзеці, і вы правесьці такую гульню.

---

**ЗЬМЕСТ.**



---

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: УЛ. ШПІЦЭР. А. ЯКІМОВІЧ.

# ЯК БОЙСКАУТ ПАД'ЕХАЎ НА ХВАСЬЦЕ САБАКІ



















**Па гэтых малюнках злажэце самі апавяданьне аб прыгодах бойскаута. (Бойскауты—дзіцячая фашысцкая арганізацыя).**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 398. Тыраж 4.700 Галоўлітбел № А—5

